# БЕЛАРУСКАЯ ЗАРНІЦА



ЦАРКОЎНА-НАРОДНЫ ДВУТЫДНЕВІК

ОРГАН ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСОЎ

*Да паважаных Айцоў Настаяцеляў прыходаў, усяго пачэснага духавенства і паважанага грамадзянства.*

*Рэдакцыя часопісі «Беларуская Зарніца» звaрочваецца да ўсяго пачэснага духавенства і паважанага грамадзянства з ветлівай просьбай аб дапамозе нам у справе пашырэньня «Беларускае Зарніцы» сярод Беларускага, а перадусім праваслаўнага, грамадзянства.*

*Гэта ні ад каго незалежны орган, які ўсебакова будзе высьвятляць царкоўнае, нацыянальнае, культурнае, гаспадарчае і палітычнае жыцьцё Беларускага народу з пункту гледжаньня рэлігіі.*

*«Беларуская Зарніца» цьвёрда стаіць на здаровым грунце Саборнасьці ў Царкве і неабходнасьці склíканьня Краявога Сабору Праваслаўнай Царквы ў Польшчы.*

Год выданьня 1. Цана нумару 40 гр.

# БЕЛАРУСКАЯ ЗАРНІЦА

Царкоўна-Народны двутыднёвік
Орган Праваслаўных Беларусаў.

| 1-га верасьня 1928 году | Падпісная цана: за 1 месяц — 80 гр.; за 3 месяцы — 2 зл. 40 гр.; да канца году — 3 зл. | № 1 |
| --- | --- | --- |

Адрэс рэдакцыі: Вільня, вул. Летняя № 7.

## Ад Рэдакцыі.

Магчыма, што ні адно пытаньне ў сучасным грамадзкім жыцьці ня мае такога вялікага значэньня, як пытаньне веры. І хаця-ж з распашырэньнем сярод народнай гушчы ідэяў сацыялізму, рэлігійнае пытаньне адыходзіць нібы-та на другі плян, але гэта толькі здаецца на першы пагляд. Запраўды-ж асобныя адзінкі, арганізацыі і друк у сучасную пару больш цікавяцца пытаньнямі рэлігіі, больш прыдаюць ім значаньня, чым калі-небудзь у іншыя часы. Але ня ўсе пры гэтым маюць на мэце выключна дабро і карысьць Царквы. Розьніца ў поглядах на вырашэньне пытаньняў рэлігіі асабліва значна на абшарах Заходняй Беларусі, дзе стыкаюцца пытаньні рэлігійныя, палітычныя і нацыянальныя. Але тым вялікшае значэньне для дабра Царквы, народу ды й духавенства маюць правідловая пастаноўка і вырашэньне царкоўных пытаньняў на гэтых землях.

Прыступаючы да выданьня нашае часопісі ў беларускай мове, мы маем на мэце дапамагаць карыснаму вырашэньню гэтых пытаньняў і думаем, што шырокае кола чытачоў, як са сфэры духавенства так і міран, дапамогуць нам сваім супрацоўніцтвам дасягнуць назначанае мэты, што асабліва патрэбна ў сучасны момант, калі мы знаходзімся на пярэдадні Краявога Праваслаўнага Сабору. Мы маем на мэце даць магчымасьць сказаць праўдзівае слова аб царкоўных патрэбах і іх задаваленьні каранному мяйсцоваму беларускаму народу, бясшумна ў вясковай глушы захоўваючаму родную праваслаўную веру і тым мучанікам духаўнікам,

якія мучаючысь горам і бедамі сваіх прыходжан, на сабе перацярпелі, ўвесь цяжар сучаснага царкоўнага быту і бязпраўя.

Адначасна з нашым высілкам, скіраваным да найбольш карыснага, сумесна Іерархіі з духавенствам і народам, вырашэньня царкоўных пытаньняў, мы будзем зьмяшчаць на старонках часопісі стацьці і заметкі на тэмы эканамічныя, каапэратыўныя, асьветна-культурныя і нацыянальныя.

З глыбокім пераконаньнем у карыснасьці распачатае намі справы мы заклікаем усіх спачуваючых нашаму заданьню да супольнае працы.

*Рэдакцыя.*

---

# Беларусізацыя праваслаўнай царквы.

Усё больш і больш грамадзянства зварочвае ўвагі на становішча Праваслаўнай Царквы ў Польшчы.

Гэткую зьяву трэба лічыць з аднаго боку вельмі пацяшаючай, як доказ сьвядомасьці таго, што Праваслаўная Царква зьяўляецца фактарам грамадзка-гаспадарственнага значаньня, з другога-ж боку ня зусім бясьпечнай, бо рожныя апэратары хацелі-б зрабіць апэрацыю арганізму праваслаўнай царквы выключна з палітычнага ці з сваіх партыйных пунктаў гледжаньня.

Праваслаўная царква, як і кожная іншая, не павінна служыць матар'ялам для палітычных і партыйных экспэрымэнтаў. Існаваньне гэтай небясьпекі павінна аб'яднаць усіх шчырых дзяцей Праваслаўнай Царквы: іярархію, клір і міран.

Справа ўпарадкаваньня Праваслаўнай Царквы зьяўляецца правам выключна саборнага розуму і нашага праваслаўнага суменьня, а дзеля гэтага можа быць вырашана толькі на правідлова і свабодна скліканым Краявым Саборы.

Што датычаць рожных парадаў з боку іншаверцаў, дык хаця-ж гэтыя парады і падсказы паходзілі-б і ад вельмі прыхільных да Праваслаўнай Царквы элемэнтаў, аднак, прымаючы іх з удзячнасьцю, мы лёс свае Царквы павінны вырашаць толькі самі. Царква стаіць вышэй палітыкі, вышэй партыйнасьці, а дзеля гэтага пры вырашэньні пытаньня аб царкоўным ладзе трэба забыцца і аб палітычных і аб партыйных справах.

Такі агульны пагляд на ўпарадкаваньне праваслаўнае царквы ў Польшчы беларускага праваслаўнага народу і стаячага на чале яго беларускага праваслаўнага асьвечанага грамадзянства.

А дзеля гэтага, што датычыць палепшаньня агульнага ладу царкоўнага жыцьця ў Польшчы, дык яно павінна быць вырашана прадстаўнікамі праваслаўнага народу і духавенства на Саборы, пераважнае-ж права на прыняцьце ўдзелу ў гэтым Саборы ад Беларусі маюць прадстаўнікі пераважаючага тут беларускага праваслаўнага народу і роднага яму духавенства, загартаванага ў векавай абароннай барацьбе за чысьціню праваслаўнай веры і добра знаёмага з мясцовамі царкоўнамі патрэбамі. Праваслаўнае беларускае грамадзянства шчыра жадае карыснага для царквы, народу і духавенства палепшаньня царкоўнага жыцьця, але да вырашэньня гэтага вялізнай вагі пытаньня яно падыходзіць з вялікай развагай. Удзел сваіх прадстаўнікаў на Саборы беларускае праваслаўнае грамадзянства разумее ня ў сэнсе ўзаемных абвінавачаньняў, а ў хрысьціянскі-любоўным вы-

рашэньні цяжкіх пытаньняў, у сумеснай з Іерархіяй абароне спраў царквы.

Зьмяшчаючы гэтак часта весткі на тэму „аб беларусізацыі царквы“, ні польская, ні расейская прэса ня выказала, што іменна яна разумее пад словам „беларусізацыя“ царквы.

Праваслаўныя беларусы **ня маюць на мэце замяніць царкоўна-славянскае мовы ў багаслужэньні беларускаю** не дзеля таго, каб такі замен быў некананічным, а дзеля таго, што ён для царкоўнае справы ў сучасны момант не карысны.

Але бязумоўна карысным і абавязкава патрэбным, па [illegible] думцы грамадзкіх [illegible] з настро[illegible] беларускіх дзеячоў, знаём[illegible] [illegible]ўлямі беларускага насельніцтва, зь[illegible] [illegible]ецца: 1) казаньне царкоўных навук у беларускай мове там, дзе насельніцтва гэтага пажадае, 2) выкладаньне ў школах рэлігіі на беларускай мове, 3) узгаваньне будучых духаўнікоў для беларускага народу ў Віленскай Духоўнай Сэмінарыі ў беларускім **нацыянальным духу** і ў сувязі з гэтым выкладаньне ў сэмінарыі прадметаў у беларускай мове, з абавязкавым выкладаньнем паляністыкі і расейскай мовы, 4) вядзеньне дзелаводства ў кансісторыях і перапіскі паміж кансісторыямі, благачыннымі і сьвяшчэньнікамі ў беларускай мове, а таксама зьдзейсьненьне іншых плянаў, дапамагаючых зьбліжэньню духавенства з міранамі **нацыянальна**, а праз гэта для агульнай карысьці **духова.**

Усе народы міра выказваюць імкненьне да нацыянальнага самаакрэсьленьня і аб'яднаньня, і ў гэтым няма нічога варожага царкве, бо Царква стаіць вышэй нацыянальнасьці.

Вялікае дабро было-б для Царквы, калі-б духавенства само ўзяло ў свае рукі справу нацыянальнага самаакрэсьленьня народу.

Заданьне Царквы і яе служыцялёў— панаваць над напраўленьнем духа часу і накіроўваць яго да вялікшай хвалы Усявышняга.

Магутнасьць Царквы будуецца на [illegible]аньні над розумам і калі мяняць панав[illegible] [illegible]тнасьць на асабістую ка[illegible] гэтую маг[illegible] [illegible]ага дня, дык, запраўды [illegible]рысьць сёньняшн[illegible] [illegible] трывала, карысьць не вяліка і н[illegible]

Але-калі духавенства сваб[illegible]одна [illegible]рашуча стане на чале нацыянальнага руху, пастараецца ўзяць яго ў свое рукі і ўмеючы, бяз рэзкіх ухіленьняў пакіруе ім, дык народ яму неадкладна падпарадкуецца і будзе яго благаслаўляць.

**Вукал**

---

# Царства Божае і царства кесара.

„Аддавайце царава цару, а Божае Богу“. Гэты выраз можна назваць як-бы явангельскай формулай, вызначаючай адносіны царквы да дзяржавы. Рожніца паміж двама царствамі была і будзе заўсёды, але адносіны паміж імі не застаюцца заўсёды нязьменнымі; яны мяняюцца ў рожныя эпохі хрысьціянства. Хрысьціянства ня ведае пэўнай формулы, якая назаўсёды абазначыла-б хрысьціянскае будаўніцтва дзяржавы. Адно толькі застаецца нязьменным. Хрысьціянства не адкідае мэханічна і рэвалюцыйна зямной дзяржавы, яно прызнае яе як асобную сфэру існаваньня, але для Царства Божага патрэбную. Царква Хрыстова будуецца на сваіх уласных падставах, незалежных ад стыхій гэтага міру, жыве па-сваяму ўласнаму закону духовага існаваньня. Але Царква Хрыстова ў момант свайго ўзьніку была абкружана стыхіямі гэтага міру і змушана была жыць у паганскім гаспадарстве, жорстка прасьледаваўшым хрысьціян. „Зямная дзяржава“ не азначае абавязкава манархіі, яна ёсьць абазначэньне царства гэтага міру, парадку грахоўнай прыроды. Дэмакратычная ці сацыялістычная рэспубліка таксама зьяўляецца зямным царствам, як і манархія.

І пытаньне аб адносінах Царства Нябеснага да царства зямнога ёсьць аднолькава пытаньне аб адносінах і да манархічнай гаспадарственнасьці і да рэвалюцыі. Гэта ёсьць пытаньне аб адносінах Царства Божага да „міру“. Тэму гэтую трэба абсуджваць у атмасфэры вольнай ад страсьцей.

У сучасную пару безкарыснае адношаньне да праўды бадай што загінула. Духовае плябейства і жаданьне ўласнай карысьці казяць ня толькі вырашэньне, але і самую цастаноўку тэмаў. І ў асабліва нездаровай атмасфэры праходзіць абсуджваньне прынцыпіяльнага адношаньня хрысьціянства да манархіі і рэвалюцыі, да старога „гэтага міру“ і новага „гэтага міру“. Але да разьвязаньня гэтае тэмы ня можна падыходзіць той, хто падставай жыцьця лічыць палітыку, чые сэрца поўна зла і ненавісьці. У тэме гэтай шмат ёсьць праблематычнага, яна не атрымала яшчэ царкоўна-дагматычнага рашэньня. Меньш усяго дапусьціма для хрысьцяніна вонкавае адношаньне да важных катастрафічных здарэньняў жыцьця. Чалавек перажывае якое-небудзь няшчасьце, цяжкую хваробу, беднасьць, сьмерць блізкага, дык рэлігійнае адношаньне да гэтых выпадкаў не дае магчымасьці бачыць у ім вонкавых выпадковасьцяў,

У жыцьці няма нічога выпадковага. Усё мае сэнс, г. ё. зьяўляецца знакам з іншага міру. Рэлігійна перажыць якое-небудзь здарэньне значыць перажыць яго ўнутраны сэнс, зразумець яго глыбіню, перажыць яго як свой лёс, пасланы Богам. Калі так трэба перажываць здарэньні асабістага жыцьця, дык тым больш гэтак трэба перажываць здарэньні жыцьця гістарычнага. Увесь сьвет знаходзіцца ў небывалым крызісе. Мы жывём сярод зломкаў гаспадарстваў і будаўніцтва новага жыцьця. Усё прыйшло ў становішча нясталасьці і хаотычнага руху. Грамадзкі парадак, які здаваўся ня толькі моцным, але і сталым, разбураны. Радыкальна зьмяняюцца адносіны Царквы і гаспадарства і зусім па новаму абазначаюцца ўзаемаадносіны Царства Нябеснага да царства зямнога. Перад вечнай Царквой Хрыстовай стаіць новае зямное царства. І ўсе старыя катэгорыі ў вырашэньні гэтае тэмы зьяўляюцца застарэлымі і няпрыгоднымі. Недарэчнымі зьяўляюцца перад тварам сусьветнага крызісу тыя рэстаўрацыйныя і рэакцыйныя думкі, якія спадзяюцца на зварот старых адносінаў паміж Царквой і дзяржавай, пры якіх першая зьяўлялася рабой апошняе. Сузнаньне, якое бачыць у рэвалюцыі, толькі вонкавы гвалт, вонкавы непарадак, ня ёсьць хрысьціянскім, ня ёсьць рэлігійным, гэта ёсьць сузнаньне, здушанае абыватэльскім позытывізмам.

Хрысьціянства ня можа вонкава адносіцца да гістарычных крызісаў, пераваротаў і пераломаў, ня можа разглядаць іх, як рух мёртвай матэрыі, нямаючый нічога супольнага з жыцьцём духа, з рухам духа. Хрысьціянства мае ўнівэрсальную прыроду, яно ахапляе ўсё; усё адбываючаеся ў сьвеце з ім зьвязана і яму падпарадкавана. Рэвалюцыя, гістарычны крызіс павінны нешта абазначаць ва ўнутраным лёсе хрысьціянства. Усе вонковыя гістарычныя здарэньні маюць паўторную прыроду, яны абазначаюцца здарэньнямі, адбываючыміся ва ўнутраным духовым жыцьці. Для вонкавага, рэлігійна-нявопытнага вока здаецца, што рэвалюцыя адбываецца ў стыхіях міра, а Царква Хрыстова толькі пасыўна перажывае здарэньні ідучыя звонку і ўдараючыя па ёй. Гэта ёсьць памылка нерэлігійнага сузнаньня: думаць, што царква зусім пасыўна, што яна стаіць збоку жыцьця. У запраўднасьці-ж крызіс і рэвалюцыя адбываюцца ў сьвеце духовым, і ў гісторыі толькі сымвалічна адбіваецца Рэвалюцыя ня ёсьць здарэньне вонкавае для кожнага з нас і для ўсяго хрысьціянства, а ёсьць унутранае духовае здарэньне, духовая хвароба ў хрысьціянскім чалавецтве, у хрысьціянскім народзе. Царква ёсьць жывы арганізм, арганізм багачалавецкі, у якім адбываецца безперастаннае ўзаемадзеяньне Божаства і чалавецтва. Як і кожны арганізм, Царква можа перажываць крызіс, можа хварэць, можа узраджацца і разьвівацца. Хварэе і перажывае крызіс у царкве ня Бог, а чалавецтва. Хрысьціянства, як і ўсё арганічнае, мае свае эпохі, сваю гісторыю. Пачатковае хрысьціянства было зусім іншай эпохай

у хрысьціянстве, чым хрысьціянства з часоў Канстанціна Вялікага. Хрысьціянства пары мучаніцтва вельмі адрожніваецца ад хрысьціянства пары Сусьветных Сабораў. Хрысьціянства сярэднявечнае ёсьць зусім іншая эпоха ў хрысьціянстве, чым хрысьціянства новага часу. Вось і цяпер хрысьціянства ўступае ў новы пэрыад, перажывае новую хваробу. Канчаецца ня толькі хрысьціянства новай гісторыі, але можа быць і весь гістарычны пэрыад хрысьціянства з часоў Канстанціна Вялікага. І гэты ўнутраны крызіс хрысьціянства абазначае ўсе вонкавыя гістарычныя катастрофы. Па-новаму абазначаюцца адносіны паміж Царквой і стыхіямі гэтага сьвету. І радыкальна зьмяняюцца адносіны дзяржавы, у якой адбываюцца бурныя працэсы да вечных мэтаў Царства Божага. Гэтыя адносіны абазначаюцца ў духоўным сьвеце а у сьвеце гістарычным яны толькі адбіваюцца. Выздараўленьне ад хваробы, перамоганьне духовага крызісу будзе пачаткам новага пэрыаду хрысьціянства, узьніку новага стылю хрысьціянства ў хрысьціянскай душы і хрысьціянскай гістарычнай плоці, радыкальнае зьмены хрысьціянскага быту. Але гэта ня значыць, што хрысьціянства можа зьвязаць сябе з рэвалюцыяй, як уперад зьвязала з манархіяй, гэта ня значыць што стварэецца дзяржава, якую хрысьціянства можа прызнаць сваёй.

**Бердзяеў.**

---

# Пастанова Сьвяшчэннага Сыноду Праваслаўнай Мітраполіі ў Польшчы.

Сьвяшчэнны Сынод на паседжаньні 3 верасьня 1924 году **слухалі:**

Прапанаву Найсьвяшчоньняйшага Мітрапаліта Дзіанісія высьвятліць пытаньне аб такой пастаноўцы ў сучасную пару службы Божай і царкоўных казаньняў, каб і Служба Божая і казаньні зрабілі па-магчымасьці вялікшы ўплыў на душы молячыхся, у мэтах узгадаваньня на ўлоньні нашай сьв. Праваслаўнай Царквы верных сыноў яе, спаўняючых тэстамэнт бацькоў і моцных духам барацьбітоў за царкоўныя традыцыі і народныя звычаі ў рэлігійна-народным жыцьці праваслаўнага насельніцтва ў Польшчы, няздольных лёгка падпадаць пад уплыў сэктанцкай агітацыі.

Справка 1. За адсутнасьцю ў значнай большасьці ўрадавых школаў выкладаньня роднае мовы, Праваслаўная Царква, з яе багаслужэньнем, абрадамі і навучаньнем слова Божага зьяўляецца адзіным мейсцам, гдзе можа радзіцца, расьці і ўзмацняцца здаровая царкоўна-народная, карысная для гаспадарства і грамадзянства стыхія.

Справка 2. Сьв. Сынод Праваслаўнай Мітраполіі ў Польшчы 16 чэрвеня 1922 г. благаславіў для Валынскай япархіі дапушчэньне ў славянскай багаслужэбной мове народнай украінскай вымовы і чытаньне Слова Божага пры багаслужэньні на ўкраінскай мове ў тых выпадках, дзе і калі гэта будзе прызнана неабходным. Зазначанае благаслаўленьне было дадзена Сьв. Сынодам дзеля таго, каб зрабіць малітвы царкоўныя больш зразумелымі для народу ў мэтах процідзеяньня агітацыі штундыстаў, а таксама дзеля таго, каб утрымаць на ўлоньні Праваслаўнай Царквы ўкраінскіх нацыяналістаў, якія запраўдную Праваслаўную Царкву ў Польшчы лічаць Расейскаю і імкнуцца да стварэньня ўкраінскай аўтокефальнай царквы за межамі. Сьв. Сынод быў пераканаты, што гэты спосаб унясе спакой у рэлігійнае жыцьцё Праваслаўнай Царквы ў Польшчы і будзе карысным для Дзяржавы.

Справка 3. Пісьмом з 19 кастрычніка 1922 г. за № 8721 Міністар Вызнаньняў зрабіў запытаньне Сьв. Сыноду, ці не належыць таксама даць дазвол

на ўжываньне ў багаслужэбных тэкстах і чытаньні Слава Божага мовы беларускае і польскае ў тых прыходах у межах Польскае Дзяржавы, гдзе праваслаўнае насельніцтва гаворыць на мове польскай ці беларускай. На гэтае запытаньне Сьв. Сынод ухваліў 14 сьнежня 1922 г. адказ старшыні Сьв. Сынода п. Міністру ў тым сэнсе, што Сьв. Сынод нічога ня мае насупроць таго, каб у праваслаўных прыходах з пераважаючым беларускім ці польскім насельніцтвам багаслужэбны царкаўнаславянскі тэкст ужываўся пры багаслужэньнях з вымоваю гэтых народаў, а навукі ў цэрквах прамаўляліся ў іх роднай мове, калі гэтага пажадаюць прыхаджане.

Спраўка 4. На Валыні існуюць чэшскія прыходы, у цэрквах якіх даўно ўжываецца чэшская мова ў багаслужэньні і казаньні.

**Пастанавілі:** У дадатак да пастановаў Сьв. Сыноду з 16-га чэрвеня і 14 сьнежня 1922 г. і развіцьцё іх,—а) дапусьціць ужываньне ўкраінскае, беларускае, польскае і чэшскае моваў у тых багаслужэбных чынах, тэкст якіх пераложены на гэтае мовы і ўхваляны Вышэйшаю Царкоўнаю Уладаю, і ў тых прыходах, дзе гэтага пажадаюць прыходжане і дзе гэта дазволяць мяйсцовая варункі; б) благаславіць духавенству Мітраполіі ўзмацніць казаньне царкоўных навучаньняў у мове праваслаўнага **мяйсцовага** насельніцтва; в) дазволіць духавенству ладзіць бяседы ў царквах таксама ў роднай мове мяйсцовага насельніцтва; г) у школах, у якіх ёсьць праваслаўная законавучыцялі, прапанаваць апошнім выкладаньне Закону Божага таксама ў роднай для дзяцей мове; д) у духоўных школах узмацніць практыку чытаньня і вучэньня Слова Божага, а таксама ўкладаньня і вымаўленьня казаньняў у роднай мове вучняў; е) паведаміць аб гэтай пастанове Міністэрства Вызнаньняў дзеля ведама і выдаваньня залежных загадаў.

Аб гэтым паслаць указы Найсьвяшчоньнейшаму Мітрапаліту Дзіанісію і ўсім япархіяльным Архіярэям.

З гэтых пастановаў відаць, што Вышэйшая Царкоўная улада даўно дазволіла ўжываньне беларускае мовы ў казаньнях, і духавенства ня мае права адмовіцца ад гэтага, калі прыхаджане гэтага пажадаюць.

---

# Думкі проціў небясьпечнага бязвер'я.

Ужо ў канцы XIX-га, а асабліва ў наступіўшым XX-м стагодзьдзі людзі вельмі прывязаліся да ўсяго зямнога. Большасьць згубіла густ да ўсяго духовага. Жыцьцё зьбілася са шляху, вызначанага Богам, і звароту на праўдловую дарогу ставяцца розныя перашкоды. Пачало ўваходзіць у моду шукаць сваіх новых шляхоў, а не ісьці па шляху, вызначанаму Богам. Людзі, як наўмысьня ўнікаюць таго вогнішча, якое магло-б асьвятліць цёмны шлях іх жыцьця. Вера слабне, нерадзівасьць да веры надзвычайная і душа хрысьціянская з яе вышэйшымі незямнымі імкненьнямі забыта.

Маладое пакаленьне ў многіх сем'ях рэдка чуе што-небудзь аб Богу, аб веры, аб царкве. У школы дзеці часта паступаюць зусім незнаёмымі з рэлігіяй; ня шмат выносяць яны ў гэтай галіне і з сучаснай школы.

Ці-ж не выяўляюцца цяпер ва ўсей паўнаце вынікі гэтага рэлігійнага заняпаду?

Звычайна гавораць: „чаго ня ведаеш, тым і не даражыш". Гэта зусім справядліва. Хто ня мае здавальняючай веды аб прадметах веры, аб жыцьці праваслаўнай царквы, той ня будзе высока цаніць сваю веру, сваю царкву. Такі чалавек лёгка робіцца раўнадушным да яе, лёгка пакідае яе. Асабліва гэта небясьпечна сярод мяшанага насельніцтва праваслаўных з іншаверцамі ў сучасным жыцьці.

Пачуе несьвядомы чалавек што-небудзь процїў сваяго вызнаньня, процїў тае ці іншае праўды роднае веры, процїў пастановаў і абрадаў свае царквы, ён нават пры жаданьні абараніцца застаецца безбаронным, як безаружны і няведаючы падставаў, якія мае кожная праўда праваслаўнага вучэньня і ўсе пастановы нашай роднай царквы. Ня ўмеючы абараніцца бо абарона вымагае яснае і дакладнае веды і адчуваючы сябе пераможаным часта зусім бязсэнэоўнымі довадамі, такі чалавек раздумаўшы пачынае сумлявацца ў той ці іншай праўдзе сьв. веры і ўрэшце ўпадае ў абсалютнае бязвер'е.

Ці-ж не ад нязнаньня вучэньня сваёй рэлігіі так шмат цяпер хістаньняў у веры і адхіленьняў у сэктанцтва і іншыя вызнаньня?

Але шкода ад няведаньня сваёй рэлігіі такая вялікая, што выразіць яе немагчыма. Прарок Асія некалі скардзіўся, што „няма багапазнаньня на зямлі“ і гэтым тлумачыў усе грахі сваяго часу: клятву, ману, забойства, крадзеж і інш. якія вельмі распашырыліся на зямлі.

А ў сучасную пару ці-ж ня бачым падобнага? Усё больш і больш спатыкаецца нарушэньня закону Божага, страсьці самыя страшныя ня маюць удзержу ў сваім задаваленьні. Чаму-ж усё гэта? Якраз таму, што няма патрэбнага багапазнаньня на зямлі і страху Божага.

Цяжкі час пераҗываем мы. Усюды распашыраецца бязвер'е і злучаная з ім бязнраўсьцьвеннасьць,распашыраецца нейкая душэўная хвароба: зацямненьне веруючага розуму і пачуцьця нраўсьцьвеннасьці.

**Алі.**

---

# Узаемаадносіны духавенства і прыхаджан.

Адным з найцяжэйшых пытаньняў у адносінах, паміж духавенствам і прыхаджанамі зьяўляецца пытаньне аб узнагражэньні прыхаджанамі духавенства за трэбы. Гэтае пытаньне зьяўляецца амаль што адзінай і выключнай прычынай непаразуменьняў паміж духавенствам і міранамі. Шмат чаго прыхаджане могуць выбачыць сваяму настаяцелю, але церазьмернага спаганяньня за трэбы яны не выбачаюць.

І запраўды, прадставім сабе абраз, давалі часта сустракаючыйся ў жыцьці.

Да сьвяшчэньніка прыходзіць прыхаджанін і кажа, што ў яго памерла жонка, ці бацька, ці матка, пры чым просіць пахаваць нябошчыка „як трэба“, г. зн. з імшой і пытаецца, колькі сьвяшчэньнік возьме за хаўтуры.

Пры гэтым запытаньні абое і сьвяшчэньнік, і прыхаджанін апускаюць вочы ў зямлю. Сьвяшчэньнік гаворыць суму.

„Дорага, бацюшка, я-ж чалавек бедны, а ў мяне малыя дзеці ў хаце“.— „Так, але-ж і мне жыць трэба“, адказвае сьвяшчэньнік. Такім чынам паміж духаўнікам і яго духоўным сынам у той момант, калі апошняму найбольш патрэбна духовая дапамога і пацяшэньне з боку сваяго духаўніка, пачынаецца гандаль,—гандаль самы страшны, бо прадметамі яго зьяўляюцца малітва і мёртвае цела. Праз нейкі час абодва бакі застанаўліваюцца на пэўнай суме.

Прыхаджанін выходзіць ад сваяго айца духоўнага, ідзе да хаты і плача. І цяпер ён ня зусім ясна разумее, чаго ён плача, чаго яму больш шкада: нябошчыка—нябошчыцу ці тую часта апошнюю карову, якую ён змушаны прадаць, пакінуўшы дзетак без малака, — прадаць сьпяшаючыся, а дзеля гэтага за палову яе вартасьці з тым, каб каля паловы атрыманых грошай аддаць прычту за хаўтуры.

І натуральна, што ўсю гарчыню, сабраўшуюся ў яго на душы, прыхад-

жанін пераносіць на сьвяшчэньніка. Ен ня толькі думае, але і расказвае іншым, што яго „абадралі“.

А сьвяшчэньнік? Застаўшыся адзін, пасьля адыходу прыхаджаніна, ён пачынае адчуваць мучэньні суменьня, ён разумее, што яшчэ далей адышоў ад прыхаджан, што яны яго абгаворваюць за ўзятыя грошы, што яму, як айцу духоўному, трэба было-б падтрымаць, пацешыць сваё духоўнае дзіця ў яго горы, што пры гэткіх учынках ён ніякімі найкрасамоўнейшымі казаньнямі не дасягне свае мэты, што яго ўплыў на сваіх духоўных дзяцей будзе з кожным разам усё памяньшацца.

З другога-ж боку ён думае аб сваіх родных дзецях, што адныя з іх знаходзяцца ў школьным веку, другія ўжо перарасьлі гэтыя гады, што іх трэба вучыць, а вучыць няма за што, што ён ня мае магчымасьці ня толькі даць ім адукацыю, але ня можа нават адзець, абуць іх як трэба. Ен параўноўвае становішча сваіх, застаючыхся без адукацыі, дзяцей з становішчам дзяцей сваіх прыходжан у будучыне, якія як і іх бацькі, усё-ж будуць гаспадарамі, і з сумма думае аб тым, якая будучыня чакае яго ўласных дзяцей? Трэба заглянуць глыбей і зразумець і разглядзець тую трагэдыю, якую перажывае, знаходзячыйся ў такім становішчы, сьвяшчэньнік. І хто ведае, магчыма ён, змушаны абставінамі ня раз, як чалавек, аплаківае ня толькі момант свайго пасьвяшчэньня ў сьвяшчэньнікі, але і час свайго нараджэньня.

Які-ж выхад з гэтага ненармальнага і цяжкога для абодвых бакаў: духавенства і прыхаджан, а таксама шкоднага для царквы наагул становішча?

А выход ёсьць. Патрэбна толькі добрая воля з абодвых бакоў. Гэта — самаабкладка прыхаджан для ўтрыманьня прычту. Пытаньне аб колькасьці і способе самаабкладаньня з усімі дакладнасьцямі з ім злучанымі ў кожным прыходзе можа быць вырашана і апрацавана ў залежнасьці ад мяйсцовых варункаў. Выконваць гэтае самаадкладаньне Ў сельскіх прыходах выгадней усяго было-б не грашыма, а збожам; з душы, дзесяціны, ці гаспадарчай адзінкі—гэта пытаньне мяйсцовае.

Ініцыятыву Ў гэтай справе павінна ўзяць на сябе духавенства. Ясна, што сярод прыхаджан знойдуцца праціўнікі такога вырашэньня пытаньня, але смушчацца ня трэба, а далей вясьці працу.

Не абавязкава адразу з цэлым прыходам; спачатку можна з паасобнымі вёскамі.

Калі ўдасца дагаварыцца і саставіць прыгавор з адной вёскай, гэта ўжо будзе палова працы. Колькасьць годавога ўзнагароджэньня прычту лёгка азначыць. Падставай гэтага павінна быць агульная сума даходаў за год, якая ёсьць у кожным прыходзе. Гэтую лічбу, каб унікнуць ад тых няпрыемнасьцяў, якія змушаны пераносіць прычт пры пэрсанальным прымусовым пазысканьні за трэбы, можна нават паменшыць.

Для прыходжан такі спосаб узнагароджэньня прычту будзе таксама больш раўнамерным, а дзеля гэтага і лягчэйшым. Калі прыняць пад увагу, што гаспадаркі на цэлых надзелах цяпер сустракаюцца даволі рэдка, што ў большасьці выпадкаў яны падзелены на 4—6 асобных гаспадаркаў, дык пры самаабкладаньні на ўтрыманьне прычту, напрыклад: з поўнага гаспадарчага надзелу па 6—8 пудоў, с асобнай частковай гаспадаркі прыдзецца плаціць $1^1/_2$—2 пуды.

Між тым амаль ня бывае ў прыходзе хаты (частковае гаспадаркі), з якой Ў працягу года не зварочваліся-б да прычу: то хаўтуры, то народзіны, то мэтрыка, то вясельле, а значыць усё пуды ды пуды і, здараецца, што з некалькіх асобных гаспадарак аднаго надзелу трэба аддаць прычту за год 12—15 пуд. заместа 6—7, без непаразуменьняў.

Прычт з свайго боку павінен быў-бы выпаўняць усе абавязкавыя трэбы, як: хаўтуры, хрэсьбіны, шлюбы, выдаваньне мэтрыкаў, споведзь, асабліва вялікапосную, бясплатна.

Гэта адзіны карысны для абоіх бакоў выхад з ненармальнага спосабу платы за трэбы.

Гэта зьблізіла-б духавенства і пры-

хаджан, стварыла-б больш шчырыя ўзаемаадносіны між імі, паставіла-б духавенства ў большую залежнасьць ад прыхаджан, што зусім ня страшна духавенству. Карыстаючыся любоўю і пашанай з боку прыхаджан праз ухіленьне прычынаў, паралізуючых гэтую любоў і пашану, духавенства аўтарытэтна выкарыстала-б сваё становішча для дабра Царквы, што так неабходна ў сучасную пару ў нас у Заходняй Беларусі.

А. К.

---

# Мітрапалітальная Рада.

З 22 па 24 жніўня г. г. адбылася ў Варшаве другая сэсія Мітрапалітальнае Рады пры Главе Праваслаўнае Царквы ў Польшчы Мітрапаліце Дзіанісіі.

Папярэдні склад Рады быў папоўнены прадстаўнікамі царкоўна-грамадзкімі дзеячамі — ад нацыянальнасьцяў: беларускай, украінскай і расейскай. Ад беларускага грамадзянства былі запрошаны: сьвяшчэньнік А. Коўш, інспэктар Віленскае беларускае гімназіі Р. Астроўскі і настаўнік Навагрудзкае бел. гімназіі М. Чатырка.

Рашэньне Главы Праваслаўнае Царквы будаваць царкоўнае жыцьцё ў цесным паразуменьні з прадстаўнікамі грамадзянства ўсіх нацыянальнасьцяў, належачых да Праваслаўнае Царквы, будзе спаткана грамадзянствам вельмі прыхільна.

Мітрапалітальная Рада заслухала і разважыла цэлы шэраг надзвычайна важных пытаньняў, напр.: аб юрыдычным становішчы Царквы ў Польшчы, аб закрыцьці цэркваў, аб атняцьці царкоўнай маемасьці, аб уніяцтве ў Галіччыне, аб вышэйшай і сярэдняй духоўнай асьвеце і г. д.

Найгалаўнейшым пытаньнем была справа скліканьня Краявога мяшанага (з духавенства і міран) Сабору праваслаўнае царквы ў Польшчы. Пасьля ўсебаковага разгледжаньня гэтае справы пастаноўлена абраць з ліку сяброў Мітрапалітальнае Рады спэцыяльную камісію, якая-б выпрацавала як статут аб скліканьні Сабору, так падгатавала-бы даклады па розным балючым пытаньням для разгледжаньня іх Саборам.

У склад камісіі абрана Мітрапалітальнай Радай трох духоўных і тры міраніны па нацыянальнаму прынцыпу: ад беларусаў — сьвяшчэньнік А. Коўш, і грам. Р. Астроўскі, ад украінцаў — пратаіярэй Грушко і пасол сойму грам. Хруцкі, ад расейцаў — архімандрыт Дамаскін і грам. Серэбрэнікаў. Старшынёй гэтае камісіі вызначаны Мітрапалітам архіяпіскап Гарадзенскі — Аляксей. Камісія распачне сваю працу ў Варшаве 14 верасьня г. г.

Такім чынам, адбыўшаяся другая сэсія Мітрапалітальнае Рады зьяўляецца гістарычнай у царкоўным праваслаўным жыцьці ў Польшчы. Гэтая сэсія папоўненая з ініцыятывы і давер'я Уладыкі Мітрапаліта царкоўна-грамадзкімі нацыянальнымі дзеячамі, зсунула справу аб скліканьні Царкоўнага Сабору з грунту тэорэтычнага на грунт рэальны. Назначаны тэрмін скліканьня сабору і мейсца яго паседжаньняў. Сабор мае распачацца 10 студзеня 1929 г. ў Пачаеўскай Лаўры.

**А. С.**

# Пільная справа.

Заходняя Беларусь знаходзіцца ў зусім выключным становішчы, як з пункту гледжаньня гаспадарча-эканамічнага, так і культурна-нацыянальнага. Такі ўжо лёс гаротнага беларускага народу: жыць усё жыцьцё ў страшэннай беднасьці, цяжка працуючы для кавалка хлеба, ня бачыць і не карыстацца вынікамі свае працы, і на працягу цэлай чарады вякоў быць сьведкам барацьбы дзьвух культураў, дзьвух рэлігіяў там, дзе ён адзін мае права быць гаспадаром.

Што датычыць матар'яльных варункаў жыцьця беларусаў, дык справа абстаяла-б ня вельмі блага, калі-б гэтыя варункі залежалі толькі ад яго працы; наш народ не баіцца працы, ён любіць свае роднае поле, свае загоны і зямля ніколі не пакінула-б яго праца без узнаграджэньня, калі-б гэтай зямлі было больш. Ня блага абстаіць справа і ў галіне нацыянальнай: чаго не рабілі царскія ўрадоўцы, каб беларус забыўся роднае мовы і нават самае імя беларуса, чаго ня робіцца і цяпер у гэтай беднай краіне, аднак ні русыфікацыя, ні палянізацыя не далі і не дадуць ніякіх вынікаў, не забыўся беларус свае мовы, ня выракся самаго сябе.

Але на гэта была патрачана шмат працы, шмат высілкаў — з сумам прыходзіцца ўспамінаць аб гэтым, бо калі-б ня прыйшлось палажыць на гэтую барацьбу такой вялікай колькасьці энэргіі, апошняя магла-б пайсьці на падняцьце культурнага роўня, на разьвіцьцё асьветы, на абуджэньне сьвядомасьці.

Але ёсьць мясьціна, дзе справа абстаіць шмат гарэй, дзе беларускаму народу пагражае вялікая небясьпека і дзе сьвядомыя элементы ў сфэры беларускага насельніцтва павінны вясьці энэргічную барацьбу для аддаленьня гэтае небясьпекі. І апошняя тым вялікшая, чым нязначнейшымі здаюцца яе вынікі.

Канстытуцыя Польскай Рэспублікі не прызнае „bezwyznaniowców“, навучаньне рэлігіі зьяўляецца абавязкавым, а дзеля гэтага няма нічога дзіўнага ў тым, што праваслаўным дзецям выкладаецца праваслаўная рэлігія. Болей таго — згодна з Канстытуцыяй рэлігія можа выкладацца ў „роднай мове“, г. зн. для дзяцей беларусаў — у беларускай. Школьная ўлада, колькі нам вядома, не пярэчыць гэтаму і ўсё было-б добра, калі-б разам з магчымасьцю выкладаньня Закону Божага пабеларуску і самае навучаньне вялося ў беларускай мове.

Атрымліваецца нейкая недарэчнасьць: заканавучыцель тлумачыць малітву пабеларуску і дзеці яго вельмі добра разумеюць; але малітву трэба навучыцца на памяць, а так як дзеці ня умеюць чытаць па ц.-славянску і ня ведаюць альфабэту — кірыліцы, дык заканавучыцель змушаны пісаць малітву на клясовай дошцы лацінікай, вымагаючы, каб дзеці сьпісалі яе ў сшыткі.

Што рабіць? Дзеці, вучачыяся ў польскай паўшэхнай школе, ведаюць толькі лацінскія літары і сьвяшчэньнік піша малітву ў славянскай мове лацінскімі літарамі.

Падобная зьява немагчыма і абавязкава трэба прыняць усе меры да таго, каб дзеці мелі магчымасьць вучыцца сваёй роднай мове. Бо калі нават малітву беларускія дзеці будуць чытаць па-польску, дык тым больш ня змогуць яны прачытаць ні беларускай кнігі, ні беларускай газэты. Бязумоўна, мову гаспадарственную ведаць трэба, але ня можна ня ведаць і свае роднае мовы, мовы бацькоў і дзядаў, захоўваючых яе на працягу вякоў,—і, ясна, не дзеля таго каб цяперайшае падрастаючае беларускае насельніцтва, якое вучыцца ў польскіх школах, зусім забылася яе.

На гэта мы зварочваем увагу беларускіх грамадзка-палітычных дзеячоў— бо падобная зьява зьяўляецца той небясьпекой, з якой трэба вясьці неадкладную барацьбу.

**Чарнеўскі.**

# Каму гэта карысна?

Юрысконсульт Сьв. Сыноду Праваслаўнае Царквы ў Польшчы зрабіў на другой сэсіі Мітрапалітальнае Рады вельмі цікавы даклад аб юрыдычным і фактычным становішчы Праваслаўнае Царквы ў Польшчы.

Справа была высьветлена ўсебакова. Даклад зрабіў на прысутных вялікае, а разам з тым і цяжкае ўражаньне. Прывёўшы ст. ст. Канстытуцыі, якія гарантуюць вольны ўнутраны лад і зусім незалежнае станов!шча Праваслаўнае Царквы ў Польшчы, дакладчык зрабіў мастацкі нарыс фактычнага сучаснага становішча Царквы ў Польшчы. На падставе сабранага ў юрыдычным аддзеле Сьв. Сыноду багатага матар'ялу ён абаснавана накідваў адзін малюнак за другім, прыводзіў адзін факт за другім таго бязпраўя, сваявольля, а таксама і зьдзекаў, якія рожныя адміністрацыйныя ўлады тасуюць да Праваслаўнае Царквы, яе верных і духавенства. Афіцыяльныя дакуманты сьведчаць аб тым, што адміністрацыйныя ўлады ў рожных ваяводзтвах тасуюць у адносінах да Праваслаўнае Царквы спрэчныя загады, што лічыцца нармальным у адным ваяводзтве, то забараняецца і караецца ў другім.

Цяжка бараніць, па словам дакладчыка, справы царквы і ў судох, дзеля таго, што ня ўсе судзьзі лічаць сучасную праваслаўную царкву ў Польшчы наступніцай былое расейскае праваслаўнае царквы, думаючы, што пры расейскім урадзе царква ня мела сваё маемасьці, а быццам гэтая маемасьць напр. царкоўныя гмахі, будынкі, зямля не станавілі ўласнасьці царквы, а былі ўласнасьцю дзяржавы. Такі пагляд зьяўляецца спрэчным з агульным правам, якое існуе і цяпер у нас.

Пляновыя бязпраўныя ўчынкі безадказных элемэнтаў, сваявольле адміністрацыі і адсутнасьць згоднага з існуючым правам юрыдычнага пагляду на маемасьць праваслаўнае царквы, паралізуюць усе спосабы яе абароны і як найбалей пэўны спосаб — дакладчык прапануе — абарону цэркваў і іх маемасьці ад рожных захватчыкаў уласнымі сіламі прыхаджан.

Сумны вывад, — і мусіць ня мала бачыў няправядлівасьці і надужыццяў пры абароне правоў царквы гэты стары і выдатны юрыст, каб прыйсьці да яго.

У сувязі з гэтым паўстае пытаньне: Каму ! якая карысьць ад таго, што пяцёхміл!ённы праваслаўны народ у Польшчы зьяўляецца пакрыўджаным у сваёй веры? Такое адношаньне да праваслаўнае царквы выклікае незадаваленьне сярод праваслаўных гушчаў стварае з ляяльных і ўмеркаваных элемэнтаў няпрыхільных і варожых да дзяржаўнасьці. Ці такі настрой праваслаўнавеfiles юючага народу карысны для дзяржавы? Такое пытаньне хіба ня патрабуе адказу.

Выдатныя дзяржаўныя людзі заўсёды бачылі вялікую шкоду для дзяржаўнасьці ад уціску праваслаўя.

Ніжай пададзенае пісьмо Літоўскага Канцляра Льва Сапегі, напісанае 12 сакавіка 1622 г. ў Варшаве да полацкага вуніяцкага архіяпіскапа Іасафата Кунцэвіча служыць яскравым доказам таму.

Найсьвяшчоньнейшы Уладыка!

Няхочучы я ўступаю ў перапіску з Вашым Найсьвяшчонствам, аднак, бачучы цьвёрдасьць Вашых пераконаньняў і што довады ня могуць перакanaць Вас, я толькі адказваю на Вашае пісьмо:

Няма сумліву ў тым, што я і сам стараўся распашыраць вунію і ведаю, што было-б неразумна пакідаць гэтую справу, але мне ніколі ня прыходзіла ў галаву, каб Ваша Найсьвяшчонства прымушалі людзей да вуніі гэткім спосабам.

Усявышні кліча д а Сябе ўсіх людзей ласкава: Прыдзіце да Мяне ўсе і г. д., але сілаю прыцягненых рабоў не патрабуе і ня прымае. Вы-ж гэтым неразумным прымусам уціскаеце расейскі народ і падбухторваеце да бунту проціў Яго Сьветласьці. Цяжка Вам ад гэтага адмовіцца, калі пра гэта ясна гаворыцца ў скаргах, падданых на Вас

польскім урадоўцам Вялікага Княства Літоўскага.

Вам таксама ведамы скаргі простага народу, што яму лепш быць у турэцкай няволі, чым цярпець гэткія страшныя мучэньні за веру.

Вы пішаце, што для народу мае гонар і палітыка, а я дадам, што ня толькі палітыка, але і Гаспадарства, бо ад паслухмянага народу больш карысьці Гаспадарству, чым ад Вашай Вуніі.

Чаму Вы лічыце сваім абавязкам сваю ўладу прадстаўляць за волю Караля, а значыць і Гаспадарства, калі Вы ведаеце, што ўлада Ваша абмежавана і што Вашы стараньні ў справах, якія ідуць на перакор спакою і карысьці грамадзянства могуць справядліва лічыцца абразай Яго Сьветласьці? Калі-б Вы папрабавалі рабіць так у Рыме ці ў Вэнэцыі, дык Вас напэўна-б навучылі, якую пашану трэба мець да палітыкі і Гаспадарства.

Пішаце аб звароце да веры адступнікаў і г. д. Трэба старацца аб іх звароце,але трэба рабіць гэта разумна і прыстасоўвацца да абставінаў. Трэба, каб Вашае жаданьне і імкненьне да аб'яднаньня былі абаснаваны на рэгулах любві па славах сьв. апостала Паўла, але відаць, што Вы адыйшлі ад вучэньня гэтага апостала, а дзеля гэтага ясна, што тыя, якія былі пад Вашаю ўладаю, перасталі Вас слухаць.

Я павінен, — гаварыце Вы, — быць наступнікам сьв. япіскапаў, падобна ім праслаўляць Бога, браць прыклад з Златаустага і іншых вялікіх айцоў,

Гэта вельмі пахвальна, але трэба таксама браць з іх прыклад у цярплівасьці і добрых учынках.

Прачытайце жыцьцё ўсіх благачасьцівых япіскапаў, прачытайце ўсе кнігі Златаустага. Ня знойдзеце ў іх ні скаргаў ні загадаў уціскаць ці шукаць прычынаў да ўзбуджэньня судовых працэсаў, ні падбухторваньня да забойства благачасьцівых сьвяшчэньнікаў — знойдзеце толькі тое, што паможа да праслаўленьня Бога і спасеньня душаў.

Цяпер паглядзім на працу Вашага Н-ва. Вашымі скаргамі поўны ўсе земскія суды, поўны магістраты, поўны трыбуналы, поўны ратушы, поўны канцэлярыі ўсялякіх скаргаў, даносаў, працэсаў, чым вуніі ня можна ўмацаваць, а наадварот, у грамадзянстве прападае ўсякая любоў, а сем'і напаўняюцца сваркамі і скаргамі.

Пішаце, што Вам вольна тапіць праваслаўных і рубіць ім галавы і т. п. Але так з імі зварочвацца ня можна, бо Божая запаведзь забараняе ўсякую помсту і гэтая запаведзь адносіцца і да Вас.

Яшчэ пішаце, што на соймах ня прыхільна гавораць аб вуніі і нават аб благачасьцівым рымскім духавенстве. Хто таму прычынай? Адна вунія зьяўляецца віной усіх гэтых няшчасьцяў.

Калі робіце гвалт над народным суменьнем, калі зачыняеце цэрквы, каб людзі без хрысьціянскіх абрадаў і сьвяшчэнных трэбаў паміралі, як паганцы, калі самавольна злоўжываеце воляй Караля — гэта робіце бяз нас, а калі з прычыны Вашых злоўжываньняў у народзе падымаецца паўстаньне, якое трэба будзе заспакоіць, тады зварочваецеся да нас і намі затыкаеце дзіры. Праваслаўныя думаюць, што мы з Вамі робім загавор дзеля згвалчаньня народнага суменьня і ўзбураньня агульнага спакою, але гэтага ніколі ня было.

Даволі таго, што Ваша Найсьвяшчонства з намі ў вуніі, якую Вы павінны берагчы дзеля самога сябе і лепш было-б не аддаваць нас усенароднаму гневу і ненавісьці, а самому сябе берагчыся ад усенароднага суду.

Пішаце каб тых, якія ня прымаюць вуніі высылаць з гаспадарства і г. д. Лепш няхай ня будзе ў нашым гаспадарстве такога вялікага беззаконьня. Даўно ў нашым гаспадарстве ўмацавалася сьв. Рымска-Каталіцкая вера, і да тых пор, пакуль яна ня мела сабе саюзьніцы вуніі, да тых пор славілася сваім спакоем і магутнасьцю. Цяпер-жа, калі знайшла сабе памошніцу неспакойную вунію, церпіць з гэтай прычыны на народным сабраньні, павятовых зьездах рожныя непаразуменьні.

Лепш і больш карысьці было-б для гаспадарства і грамадзянства парваць усё з гэтай неспакойнай саюзьніцай, бо ў нас ніколі ня было ў грамадзянстве

такіх забурэньняў, якія зрабіла нам вунія.

Пішаце, што трэба аддаць цэрквы на зьдзек і г. д., але пячатаць, зачыняць цэрквы і зьдзекавацца над кім небудзь ёсьць разбураньне брацкага сужыцьця і спакою.

Скажэце, Ваша Найсьвяшчонства, каго Вы зьвярнулі да сябе сваёй жорсткасьцю, пячатаньнем і зачыненьнем цэркваў? Мне здаецца, што Вы адпіхнулі гэтым і тых, якія былі Вам верны ў Полацку.

З авец Вы перарабілі іх у казлоў, зрабілі небясьпечнымі для гаспадарства, а можа быць і прыгатавалі згубу нам усім каталікам.

Замест радасьці Ваша вунія прынясла нам толькі гора, а дзеля гэтага мы лічым лепш абыйсціся без яе...

Вось вынікі Вашай вуніі. Запраўды яна зьяўляецца віною таго неспакою, які пануе ў гаспадарстве і народзе. Бо калі гаспадарства захістаецца (барані Бог), да чаго Вы пракладаеце шлях сваёй жорсткасьцю, ня ведаю, што тады будзе з Вашай вуніяй.

А дзеля гэтага Кароль загадвае адчыніць праваслаўную царкву ў Магілеве, гэта я пішу па Яго загаду Вашаму Найсьвяшчонству, а калі Вы гэтага ня зробіце, я па загаду Яго Сьветласьці загадаю сам яе адчыніць і аддаць народу, каб ён там па сваяму абраду славіў Бога.

Жыдам і татарам не забараняецца ў Каралеўскіх вобласьцях мець сінагогі і мячэці, а Вы зачыняеце хрысьціянскія цэрквы!!

Ноўгарад-Северскі, Старадуб, Казянец і шмат іншых гарадоў адарвала ад нас вунія, яна і цяпер зьяўляецца галоўнай віной таго, што народ адмаўляецца ад Караля, аб чым сьведчаць многія пісьмы. Дзеля гэтага мы жадаем, каб прыносячая нам згубу вунія зусім нас ня згубіла.

Гэта мой адказ на Вашае пісьмо. Жадаю каб паміж намі ня было ніякіх непаразуменьняў і прашу Усявышняга каб паслаў Вам усё чаго сабе жадаеце, а таксама пачуцьцё любві і пакоры.

З пашанай
ЛЕЎ САПЕГА
Канцлер Літоўскі.

# Націск расейскага філянтрапічнага таварыства на Духаў манастыр.

31 ліпня г. г. ў Беларускай Праваслаўнай сьвятыні—Духавым Манастыры ў Вільні — быў гэткі выпадак. Сюды зьявіліся прадстаўнікі расейскага філянтрапічнага Т-ва і маніліся адабраць ад манастыра прытулак.

Прытулак заснаваны ў 1915 годзе стараньнямі намесніка манастыра архімандрытам Савацiям.

Прышоўшыя, карыстаючыся выездам на адпачынак кіраўнічкі прытулку, пачалі апісваць знаходзячыяся ў прытулку манастырскія рэчы.

Перапалоханныя дзеці пабеглі за абаронай да намесьніка манастыра архімандрыта Савація, які, вайшоўшы ў прытулак, быў спатканы новымі гаспадарамі так няпрыхільна, што змушаны быў зьвярнуцца да паліцыі, якая і выняла няпрошаных гасьцей.

Не чапаючы тых парахункаў, якія можа ёсьць паміж паасобнымі сябрамі філянтрапічнага расейскага таварыства і кіраўніцтвам прытулку трэба адзначыць, што для гэтых парахункаў ня мейсца ў Духавым манастыры, які для ўсіх нас павінен быць сьвятыняй.

Мы пераканаёы, што адпаведная царкоўная ўлада ў будучыні зробіць крокі для пазбаўленьня манастыра ад падобных інцындэнтаў і праз гэта заспакоіць узрушанае веруючае мяйсцовае грамадзянства.

# Гаспадарчыя парады.

## Гароднiцтва.

### Мейсца для гароду.

Жывучы ў вёсцы, ня кожны раз магчыма выбраць адпаведнае мейсца для гароду, а трэба карыстацца тым кавалкам зямлі, які выпаў з надзелу. Аднак-жа рэдка дзе можна спаткаць, каб у аднэй вёсцы гароды былі аднолькавыя: у адным канцы бывае мейсца раўнае, або ўзгорак, — у другім — можа быць лагчына, спад і г. д.

Кожнае паасобку з такіх мяйсцоў мае сваю вартасьць, і каб мець найбольшую карысьць з гароду, трэба добра ведаць, які кавалак зямлі чым палепшыць, і якія варыва гдзе сеяць.

Роўнае ды высокае мейсца для гароду ня зусім адпаведнае, бо калі няма блізка якой-небудзь заслоны ад ветру дык яно хутка астывае пасьля сонца. Вясной-жа, калі мейсца ня мае спаду, дык на ім доўга застойваецца вада, дзеля чаго няма магчымасьці пачынаць рана працу на такім гародзе.

Больш адпаведным для гароду будзе мейсца пахілае, але пры гэтым трэба ўважаць, у які бок нахіл.

Пахілае мейсца добра тым, што вясной яно хутчэй абсыхае, і можна пачынаць працу на гародзе раней. Улетку таксама вада не застойваецца, бо мае заўсёды спад.

Вельмі круты спад таксама нядобры тым, што дажджом і ўвясной верхні грунт спаласкваецца, і спажыўныя часткі грунту сплываюць уніз. Ды й вырабляць зямлю на такіх скатах нязручна: вада пасьля кожнага вялікага дажджу будзе размываць лёхі. На ўзгорках грунт бывае пухчэйшы і хутка высыхае, дзеля гэтага і спад павінен быць невялікі.

Найлепшым мейсцам для гароду ў нас трэба лічыць тое, якое мае нязначны спад на захад, або ўсход.

Зусім паўднёвы спад надта цёплы; на такім мейсцы добра растуць расьліны, якія вельмі любяць цяпло, як напрыклад: падсоўнух, мак, кукуруза памідоры. Таксама добра гэтае мейсца для высадкаў буракоў, капусты і інш., бо яны тут хутчэй высьпяваюць і даюць лепшае насеньне.

Такія расьліны, як гарбузы, агуркі, хоць патрабуюць шмат цяпла, але на паўднёвых спадах улетку часта выпараюцца. Наагул, пра паўднёвы скат трэба сказаць, што гарод на такім мейсцы вымагае частага і багатага паліваньня. Часта на паўднёвых скатах, асабліва ў сухую пару, варыва выгарае, а вясной яго псуе мароз.

Спад на ўсход таксама ня зусім добры, дзеля таго, што ў нас найчасьцей з усходу бывае сьцюдзённы вецер і, калі гарод ня мае заслоны з усходу ад ветру, дык варыва вясной будзе расьці цяжка. Усходнія спады таксама дрэнны на выпадак вясеньніх марозаў. Маладое варыва, папаўшы пад мароз, застаецца цэлым і жывым, калі яно адыходзіць павольна. На ўсходніх-жа спадах з першае часіны, як толькі пакажацца сонца, гарод награваецца адразу, і зьмёрзшыя расьліны, пападаючы адразу з марозу ў цяпло, гінуць.

Заходнія спады хоць і ня такія цёплыя, але наагул добрыя для гароду.

Паўночныя спады для гароду ў нас трэба лічыць горшымі за усё. Вясной яны доўга ляжаць пад сьнегам і няхутка ўграваюцца. Улетку таксама яны слаба награваюцца сонцам, а гароднія расьліны вымагаюць, як ведама, многа цяпла.

Мейсца для гароду не павінна быць надта нізкае, каб грунтавая вада не падходзіла блізка; нізкія, вільготныя мяйсцовасьці бываюць заўсёды і сьцюдзёнымі.

Апрача гэтага гарод павінен быць відным, каб ні дрэвы, ні будынкі не рабілі цені. У цені варыва ніцеіць, выцягваецца, бывае дробным і няхутка высьпявае. Заслоны ад ветру з дрэваў або будынкаў, хоць і павінны быць, але

ня надта блізка, каб не рабілі на гарод ценю.

Наагул, кавалак для гароду трэба выбіраць блізка каля вады, бо без вады ніколі ня будзе вялікай карысьці з гароду. Дзеля буйнага росту гародныя расьліны вымагаюць надта многа палі-ваньня.

Канчаючы гутарку аб выбары мейсца для гароду, трэба дадаць, што для вясковай гаспадаркі найляпей было-б, каб абабранае мейсца для гароду было адпаведна і для саду. Садовыя дрэвы вымагаюць для свайго буйнага росту і пладлівасьці добра ўгноенага і выробленага грунту, які можа быць толькі на гародзе. У працягу першых 20 гадоў росту сада гароднае варыва можна садзіць і сеяць паміж радамі дрэваў. У гэткім разе мейсца для гароду не павінна быць нізкае. На нізкіх мяйсцох некаторая гароднiна, як напр., капуста, хоць растуць і надта добра, але садовыя дрэвы на нізіне абавязкава загінуць. Пры добрым доглядзе і ўгнаіваньні тая самая капуста добра ўдаецца і на балей высокім мейсцы.

Я. П.

# ХРОНІКА.

Атрымана архіяпіскапскае благаслаўленьне ад арх. Хвеадосія прычтам і прыхаджанам Заборскага прыходу Глыбоцкага благачыньня за ўмелую і тактоўную абарону праваслаўнай царквы ў с. Мамаях ад неаднаразовых замераў ксяндза Далінкевіча і яго прыхаджан захапіць гэтую прыпісную да Заборскай царкву.

Епархіяльная ўлада атрымала праз Сьв. Сынод паведамленьне ад Міністэрства Вызнаньняў аб тым, што ў цяперашнім часе ня можа быць і мовы аб павялічэньні пэнсіі законавучыцялёў або аб перавядзеньні іх у вышэйшую катэгорыю. Матывы адмовы — адсутнасьць свабодных сродкаў. Гэтае пытаньне настолькі востра, што ў адным з бліжэйшых нумароў нашае часопісі пастараемся высьвятліць яго больш падрабязна ў асобнай стацьці.

З рожных мяйсцовасьцяў Віленскае Япархіі паступаюць просьбы аб арганізацыі для псаломшчыкаў рэгенцкіх курсаў. Ясна, што курсы гэтыя патрэбны, але перашкодай да іх арганізацыі зьяўляецца нястача матар'яльных сродкаў. А адчыненьня курсаў хаця-ж па благачыньням, на мясцох, калі няма магчымасьці адчыніць іх у цэнтры, у епархіяльных гарадох, неабходна: ад няўменьня псаломшчыкаў арганізаваць хор, моцна церпіць благалепьпіе багаслужэньня, а аб апошнім, у сучасных варунках жыцьця неабходна трэба клапаціца.

Усім а.а. благачынным Віленскае Епархіі разасланы вуказ Віленскае Духоўнай Кансысторыі, у якім гаворыцца, што абсуджваючы даклад аб дастаўленьні фурманак для паездак па школам а. а. законавучыцялёў, Кансысторыя прыйшла да такога вываду: калі зьвярнуцца да цывільнае улады і калі-б апошняя і задаволіла жаданьне ўлады епархіяльнае аб прымусовай дастаўцы сялянамі фурманак для а. а. законавучыцялёў, дык гэта наўрад ці прынесла-б карысьць для выкладаньня Закону Божага, бо магло-б прывясьці да непаразуменьняў паміж духавенствам і сялянамі; з другога-ж боку Куратарыум наўрад ці можа асыгнаваць асобны крэдыт на фурманкі для а. а. законавучыцялёў, тым больш, што напр. у Вільні законавучыцялі атрымліваюць пэўную пэнсію за лекцыі, у сэнсе перадзьвіжэньня па школах, знаходзячыхся ў рожных канцох места, прадстаўлены самім сабе. Дзеля гэтага, Епархіяльная ўлада не можа ў гэтай справе дапамагчы законавучыцялям і думае, што кіруючысь сваім тактам і розумам, духавенства само павінна знайсьці спосабы да таго, каб распалажыць насельніцтва

прыхільна адносіцца да справы выкладаньня Закону Божага і зразумець патрэбу навучаньня падрастаючага пакаленьня правілам сьвятой праваслаўнай веры.

Вельмі сумна, што мы, праваслаўныя, часта бываем ня ў стане вырашыць тыя цяжкія, набалеўшыя пытаньні якія ставіць само жыцьцё. Кожны, ясна, прызнае, што прадстаўленьне духавенства сваяму „такту і розуму“ ў справе атрыманьня ад сялян фурманак для паездак у далёкія школы, за 10-15 вёрстаў—не вырашае пытаньня. Пры найвялікшым такце і розуме цяжка заплаціць за фурманку 7-8 злотых, калі за самую лекцыю плоціцца 1. зл. 50 гр. — ды й то праз 2-3 месяцы, а нават і праз поўгады і пры тым, пры варунку, калі пану кіраўніку школы спадабаецца гэтую лекцыю „залічыць“, а школьнаму інспэктару ўнясьці ў ведамасьці якія ён у канцы месяца адсылае ў Куратарыум. Цікава, што спазьненьне сьвяшчэньніка на 5-10 мінут зьяўляецца прычынай для „незалічэньня“ лекцыі, хаця-ж бы яна адбылася, і хаця-бы законавучыцель займаўся 1¼-2 гадзіны.

---

## Пятніцкая царква.

У цэнтры Вільні, на самым відным мейсцы, знаходзіцца помнік праваслаўя—Пятніцкая Царква. заснаваная ў 1345 г. Цяпер гэтая царква, быццам, нікому не патрэбна, кінута на волю лёсу. Духоўная ўлада прыпісала яе да Мікалаеўскае царквы, амаль што такой-жа бяспрыходнай і беднай як і Пятніцкая. Пятніцкая царква вымагае неадкладнага рамонту, бо становішча яе такое, што на яе паказваюць з дакорам ня толькі свае, але і чужыя.

У сувязі з гэтым 19 жніўня г. г. на рамонт Пятніцкае царквы быў вызначаны па ўсіх царквох Віленскае Япархіі грашовы збор.

---

## Школьныя справы.

Па загаду ўраду завешана Т-ва Беларускае Школы ў Вільні.

Канцэсію на Віленскую Беларускую Гімназію атрымаў замест Т-ва Бацькаўскі Камітэт Гімназіі.

---

С. К. Паўловіч не зацьверджаны дырэктарам Віленскае Беларускае Гімназіі на наступны 1928—29 г.

---

На пасаду інспэктара Віленскае праваслаўнае духоўнае сэмінарыі прадстаўлены грам. А. Міхалевіч, вучыцель і былы інспэктар Віленскае Беларускае Гімназіі.

Міхалевіча падтрымліваюць беларускія царкоўна-грамадзкія колы.

---

# ЗЬМЕСТ.



Рэдактар-выдавец: сьвяшч. А. КОЎШ. Друк. Я. ЛЕВІНА Вільня, Нямецкая 22.